*Палеміка*

# Мы не згодны

## Заява Мінскага гарадскога клуба гістарычных ведаў і ваенна-навуковага таварыства пры цэнтральным Доме афіцэраў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь

У 1994 годзе спаўняецца 200 гадоў ад часу польскага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Паколькі паўстанне распаўсюдзілася і на частцы тэрыторыі Беларусі, некаторыя прадстаўнікі інтэлігенцыі нашай рэспублікі стварылі так званы Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванню 200-годдзя гэтага паўстання. Нацыянальны аргкамітэт з гэтай нагоды апублікаваў у друку зварот да беларускага народа, а таксама працягвае публікаваць іншыя свае заклікі, прапановы, матэрыялы ("Народная газета" за 15 ліпеня і 25 жніўня 1993 г.).

У сувязі з тым, што ў звароце яго аўтары прапагандуюць фальшывую пасылку, быццам бы паўстанне Т.Касцюшкі абараняла "інтарэсы беларускага народа", і пад гэты тэзіс падганяюць іншыя надуманыя меркаванні і ацэнкі, мы лічым сваім абавязкам заявіць наступнае.

Для таго, каб правільна, гістарычна апраўдана вызначыць адносіны беларускага народа да 200-годдзя паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, неабходна даць аб'ектыўную ацэнку перш за ўсё дзвюм з'явам у гісторыі Беларусі.

### 1. Гістарычная значнасць далучэння Беларусі да Расіі.

У савецкай гістарычнай навуцы даўно склалася дастаткова абгрунтаваная канцэпцыя, у адпаведнасці з якой ліквідацыя Польскай дзяржавы (нягледзячы на кансерватыўнасць і адсталасць яе грамадскага і дзяржаўнага ладу) у другой палове XVIII ст. мела рэакцыйны характар, а далучэнне Беларусі да Расіі адыграла прагрэсіўную ролю ў далейшым лёсе беларускага народа.

Выступаючы супраць гэтай навуковай канцэпцыі, сучасныя нацыяналістычныя фальсіфікатары гісторыі Беларусі перш за ўсё імкнуцца паказаць Рэч Паспалітую як бяскрыўдную федэрацыю, дзе беларускаму народу быццам бы забяспечвалася шчаслівае жыццё, а некаторыя даходзяць нават да вымыслаў, быццам і пасля Люблінскай уніі (1569 г.) Вялікае княства Літоўскае наогул заставалася юрыдычна незалежнай дзяржавай.

Тым часам у асяроддзі рэальна мыслячых даследчыкаў сустракаюць поўнае прызнанне канкрэтна-гістарычныя факты, якія сведчаць аб крайне адмоўных выніках уключэння Вялікага княства Літоўскага ў склад Рэчы Паспалітай. Так, напрыклад, доктар філалагічных навук, прафесар Белдзяржуніверсітэта, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Н.С.Гілевіч яшчэ зусім нядаўна (у маі 1993 г.) пісаў, што працяглая і настойлівая агрэсіўная палітыка Польшчы скончылася "ліквідацыяй Вялікага Княства як незалежнай дзяржавы, поўнай стратай ім сваёй незалежнасці. На Люблінскай уніі ў 1569 г. была ўтворана Рэч Паспалітая, у якую Вялікае Княства ўвайшло як бяспраўная частка яе тэрыторыі. Гэта была адна з самых трагічных, самых чорных дат у гісторыі Беларусі. Пасля апалячванне і акаталічванне беларускага насельніцтва, разбурэнне і зруйнаванне беларускай культуры, мовы, самога духу беларушчыны пайшло нечувана шпаркімі тэмпамі" ("Народная газета", 1993, 28 мая, с.2).

І вось, нягледзячы на трагедыю дэнацыяналізацыі беларусаў у Рэчы Паспалітай, фальсіфікатары гісторыі імкнуцца ўсяляк ачарніць далучэнне Беларусі да Расіі. Аднак у складзе Расіі ва ўмовах роднасці беларускай і рускай моў, пры адсутнасці моўнага бар'ера беларусы змаглі атрымліваць у значна больш шырокіх маштабах сярэднюю і вышэйшую адукацыю. З іх асяроддзя выйшлі не толькі многія высокія чыноўнікі, афіцэры і генералы, але таксама выдатныя дзеячы культуры, вучоныя і пісьменнікі.

На блізкай па роднасці расійскай глебе яшчэ ў XIX ст. з'явіліся шырока вядомыя класікі беларускай літаратуры, стала магчымым беларускае нацыянальнае адраджэнне пачатку XX стагоддзя.

У гэтым працэсе асабліва важна тое, што спыненне дэнацыяналізацыі беларусаў з боку Польшчы спрыяла фарміраванню беларускай нацыі. Пры Савецкай жа ўладзе беларуская нацыя стварыла сваю сацыялістычную рэспубліку, дабілася небывалага прагрэсу ў развіцці адукацыі, навукі, літаратуры, мастацтва, ва ўздыме нацыянальнай культуры. Беларусь мае 35 ВНУ, Акадэмію навук, кансерваторыю, кніжныя выдавецтвы, бібліятэкі, тэатры, клубы.

Толькі праз прызму гэтых гістарычных фактаў неабходна глядзець і на паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Нягледзячы на ўвесь асабісты дэмакратызм самога Т.Касцюшкі, ён узначаліў барацьбу за аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах да 1772 года, што азначала вяртанне Беларусі да той, самай трагічнай сітуацыі, да паланізацыі і акаталічвання, аб чым так вобразна сказаў пісьменнік Ніл Гілевіч.

Такім чынам, паўстанне пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі было нацыянальна-вызваленчым толькі для польскага народа і толькі ў межах імкнення захаваць сваю польскую дзяржаўнасць і нацыянальную незалежнасць. Разам з тым польскае паўстанне 1794 года ставіла і рэакцыйныя захопніцкія задачы — вярнуць пад уладу магнацка-шляхецкай Рэчы Паспалітай раней акупіраваныя землі ўсходнеславянскіх народаў. А гэта азначае, што для Беларусі польска-шляхецкае паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі не было ні прагрэсіўным, ні нацыянальна-вызваленчым.

Вось чаму ў зваротах так званага Нацыянальнага аргкамітэта фальшыва гучыць сцвярджэнне, што ў 1794 годзе беларусы сумесна з палякамі змагаліся "супраць іншаземных акупантаў", "за свабоду Бацькаўшчыны". Калі ж для палякаў акупантамі сталі Аўстрыя, Прусія і Расія, то для беларусаў самым жорсткім акупантам на працягу двухсот гадоў паказала ўжо сябе польская шляхта Рэчы Паспалітай. Ні аб якой свабодзе беларускай Бацькаўшчыны пры вяртанні прыгнёту польскай шляхты не магло быць і гаворкі.

Імкнучыся стварыць у сваіх чытачоў ілюзію, быццам бы праграмай паўстання вырашалася і пытанне аб беларускай дзяржаўнасці, аўтары звароту да беларускага народа прыдумалі, нібы 24 сакавіка 1794 г. была створана Найвышэйшая Рада Вялікага княства Літоўскага. Але тады быў створаны зусім іншы орган — Найвышэйшая Рада Літоўская як цэнтр па кіраўніцтву паўстання на тэрыторыі Літвы і Беларусі. Гэта рада выдавала нават у Вільні польскую газету і звярталася да беларусаў на польскай мове. Так званы Нацыянальны аргкамітэт, выдаючы ў якасці галоўнага кіраўніка паўстанцкага войска ў Вялікім Княстве толькі Якуба Ясінскага, утаіў ад сваіх чытачоў, што ў самы разгар паўстання Касцюшка нават спыніў дзейнасць Найвышэйшай Рады і звольніў Ясінскага ад камандавання, прыцягнуўшы тут да кіраўніцтва паўстанцамі тых, хто не ішоў далей тэрытарыяльных патрабаванняў польскай шляхты ў адносінах да Беларусі.

Але стаўшы на шлях фальсіфікацыі самога характару паўстання, Нацыянальны аргкамітэт дэзінфармуе ў сваім звароце чытачоў і аб іншых падзеях на тэрыторыі Беларусі. Сцвярджэннем, быццам тут у барацьбе прымалі ўдзел "шляхта, сяляне, мяшчане", аўтары звароту ўтойваюць класавы характар таго, што адбывалася. Пад націскам рэакцыйных сіл Т.Касцюшка не змог ліквідаваць феадальна-прыгонную сістэму, бо нават частковыя ўступкі сялянам сустракалі супраціўленне памешчыкаў. Таму і ў Польшчы, і ў Беларусі сялянства не стала сацыяльнай апорай паўстання і паўстанне не ператварылася ва ўсенароднае. Яно распаўсюдзілася толькі на частку Беларусі.

Ініцыятары правядзення юбілею ў сваім звароце ўтойваюць і той факт, што на тэрыторыі Беларусі ў паўстанні 1794 г. прымала ўдзел толькі частка дробнай і сярэдняй шляхты. У Беларусі ў радах паўстанцаў знаходзілася таксама польская шляхта, якая адстойвала не толькі свае сацыяльныя, але і агрэсіўныя нацыянальныя імкненні. З ёй у значнай ступені салідарызавалася і акаталічаная шляхта беларуская.

Такім чынам, паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі не абяцала ніякіх выгад не толькі эксплуатаванаму прыгоннаму сялянству, але і ўвогуле беларускаму народу з пункту гледжання яго нацыянальных інтарэсаў. Далейшыя падзеі паказалі, што польская шляхта сваімі агрэсіўнымі дамаганнямі, імкненнямі акаталічваць і паланізаваць беларускае насельніцтва нават у складзе Расіі, сваёй канфрантацыяй і мяцежнымі дзеяннямі выклікала ў адказ узмацненне русіфікацыі з боку царызму і тым самым моцна ўскладняла становішча беларусаў.

### 2. Роля А.В.Суворава ў гісторыі беларускага народа.

Так, А.В.Суворaў па волі рускага царызму ўдзельнічаў у падаўленні паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і гэтым садзейнічаў ліквідацыі польскай дзяржаўнасці. Але разам з тым А.В.Суворaў перашкодзіў і вяртанню Беларусі пад прыгнёт польскай шляхты ў Рэчы Паспалітай. А гэта азначае, што А.В.Суворaў не адыграў тады адмоўнай ролі ў гісторыі беларускага народа.

Неаб'ектыўныя аўтары спасылаюцца яшчэ на страты ад ваенных дзеянняў расійскай арміі на тэрыторыі Беларусі. Але вайна ёсць вайна. А калі ўжо гаварыць аб стратах таго часу, то ў іх у першую чаргу вінаваты тыя, хто распачаў у 1794 г. захоп беларускіх земляў і вяртанне іх пад ярмо польска-шляхецкай акупацыі.

А.В.Суворaў вядомы ў гісторыі як стваральнік новай, прагрэсіўнай ваеннай навукі, у якой пакладзена ў аснову павага да радавога салдата, перакананне ў тым, што забяспечыць поспех любой арміі могуць перш за ўсё свядомыя дзеянні радавых воінаў.

Звязаўшы свой гістарычны лёс з Расійскай дзяржавай, беларускі народ сумесна з рускім і іншымі народамі ўдзельнічаў у вызваленчай вайне 1812 года супраць напалеонаўскага нашэсця, якое мела на мэце ператварыць Расію ў калонію французскіх захопнікаў, а беларусаў зноў вярнуць пад ярмо магнацка-шляхецкай Польшчы.

У гэтай бязлітаснай барацьбе супраць магутнейшых сіл іншаземных захопнікаў вырашальную ролю адыграла сувораўская ваенная навука. Камандны састаў расійскіх войск, узначалены геніяльным палкаводцам Кутузавым, вырас з сувораўскай школы і кіраваўся сувораўскай "навукай перамагаць". Менавіта такія палкаводцы і камандзіры маглі падтрымаць ідэю народнай вайны супраць іншаземных захопнікаў ("дубина народной войны" — паводле вызначэння Льва Талстога).

Вось чаму да ўсяго станоўчага, што было звязана з імем А.В.Суворава, захавалі сваю глыбокую павагу і народы Савецкага Саюза. Вось чаму імя выдатнага рускага палкаводца натхняла шматнацыянальную Чырвоную Армію ў гады Вялікай Айчыннай вайны супраць гітлераўскага нашэсця, вось чаму тады быў уведзены ордэн Суворава для ўзнагароды генералаў і афіцэраў за іх умелае камандаванне войскамі, вось чаму ў тыле ворага на тэрыторыі Беларусі імя Суворава насілі 40 партызанскіх атрадаў.

Аказваючы дапамогу ў аднаўленні народнай гаспадаркі ў раёнах, якія вызваляліся ад фашысцкіх захопнікаў, саюзны ўрад прадугледзеў стварэнне ў буйных гарадах сувораўскіх ваенных вучылішчаў для дзяцей воінаў Савецкай Арміі, партызан і сірот, бацькі якіх загінулі ад рук нямецкіх акупантаў. У 1953 годзе было адкрыта Мінскае сувораўскае вучылішча.

Ва ўсім свеце ўстанавілася традыцыя прымаць ад мецэнатаў, дабрачынцаў, заснавальнікаў, стваральнікаў разнастайных фондаў дары з тымі найменнямі, якія яны прапануюць, або з назвамі ў гонар саміх дарыльшчыкаў (Нобелеўская прэмія, Трацякоўская галерэя...). Дык чаму ж русафобы дабіваюцца, каб беларускі народ праявіў няўдзячнасць і непавагу да шчодрага дару Савецкай дзяржавы і народаў СССР — Мінскаму сувораўскаму вучылішчу, што атрымала найменне ў гонар вялікага Суворава, які да таго ж яшчэ абараняў Беларусь ад заняволення польскай шляхтай, ад апалячвання і дэнацыяналізацыі? Чаму група інтэлігенцыі, якая прысвоіла сабе статус Нацыянальнага аргкамітэта, патрабуе змяніць назву Мінскага сувораўскага вучылішча?

Вельмі непрыстойна выглядае і абурэнне Нацыянальнага аргкамітэта тым, што ў населеных пунктах імем Суворава названы вуліцы, што імя А.В.Суворава носяць некаторыя калгасы. Для многіх жа калгаснікаў і іншых жыхароў Беларусі апрача ўсяго імя А.В.Суворава засталося дарагім ад часоў Вялікай Айчыннай вайны, асабліва ў сувязі з іх удзелам у партызанскім руху. Гістарычна поўнасцю абгрунтавана таксама існаванне ў г.Кобрыне (Брэсцкая вобласць) мемарыяльнага музея А.В.Суворава. Знішчэнне створаных раней музеяў разглядаецца ў цывілізаваных краінах як праяўленне вандалізму.

❑

Такім чынам, рэальныя факты сведчаць аб тым, што ініцыятары нічым не абгрунтаванага і непатрэбнага нашаму народу святкавання ў Беларусі 200-годдзя польскага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі імкнуцца ўчыніць насілле над гістарычнай рэчаіснасцю з мэтай выклікаць варожыя адносіны да Расіі і да рускага народа. Для гэтага і намаганні паўстаўшай шляхты, накіраваныя на вяртанне беларусаў пад нацыянальны прыгнёт у Рэчы Паспалітай, "аргкамітэт" імкнецца выдаць за барацьбу беларускага народа супраць "рускіх акупантаў", "за свабоду Бацькаўшчыны". Дзеля гэтага робяцца і самыя адмоўныя акцэнты на асобе А.В.Суворава.

Апрача таго, выдуманая шырокамаштабная кампанія ў сувязі з 200-годдзем польскага паўстання пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, як бачна, мае таксама на мэце адцягнуць увагу грамадскасці ад маючага адбыцца святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

**В.Вайцяхоўскі, старшыня Мінскага гарадскога клуба гістарычных ведаў, доктар эканамічных навук, прафесар.**

**А.Яцэнка, старшыня ваенна-навуковага таварыства пры цэнтральным Доме афіцэраў МА Рэспублікі Беларусь, генерал-лейтэнант у запасе.**

**Члены клуба гістарычных ведаў і ваенна-навуковага таварыства:**

**К.Дамарад, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

**В.Даўжонак, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

**Д.Жмуроўскі, доктар гістарычных навук, прафесар, Герой Савецкага Саюза.**

**А.Жураўскі, член-карэспандэнт АНБ.**

**А.Залескі, доктар гістарычных навук, прафесар.**

**А.Капылоў, старшыня ваенна-гістарычнай секцыі клуба гістарычных ведаў, генерал-маёр у адстаўцы.**

**В.Мілаванаў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

**В.Палуян, доктар гістарычных навук, прафесар.**

**А.Піскуноў, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

**Л.Побаль, доктар гістарычных навук, прафесар.**

**Я.Прымераў, доктар гістарычных навук, прафесар.**

**С.Ткачоў, кандыдат эканамічных навук.**

**25 жніўня "Народная газета" надрукавала Зварот нацыянальнага аргкамітэта па святкаванню 200-годдзя паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. І вось Мінскі гарадскі клуб гістарычных ведаў і ваенна-навуковага таварыства пры цэнтральным Доме афіцэраў Міністэрства абароны робяць контрзаяву. Нават няўзброеным вокам заўважаеш тэндэнцыйныя падыходы да разгляду важнага гістарычнага пытання. А таму рэдакцыя адначасова дае і пункт гледжання апанента, выкладзены ў артыкуле доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана.**

# "Хто пра хату, а хто пра папату"

**Уладзімір КОНАН, доктар філасофскіх навук**

Няўдзячная гэта справа — дыскутаваць з тэндэнцыйнай палітычнай заявай "клуба гістарычных ведаў" пры Доме афіцэраў. Бо клуб ёсць, а ведаў, на жаль, няма. Можна прыстойна спрачацца нават з самымі зацятымі палітычнымі праціўнікамі. Уся справа ў стылі, які, вядома ж, ёсць люстэрка чалавека. У заяве выкарыстаны стандартныя прыёмы былых парткамаў, іншых ідэалагічных службаў былога Савецкага Саюза. Тут і здзекліва-злыя двукоссі, і "так званы Нацыянальны аргкамітэт", і "тэрыторыя Беларусі" замест жывой Беларускай дзяржавы з яе тысячагадовай гісторыяй, і спасылкі на "даўно складзеныя канцэпцыі ў савецкай гістарычнай навуцы". Урэшце, прыём, які ў рыторыцы называецца **клімаксам**: "сучасныя нацыяналістычныя фальсіфікатары гісторыі Беларусі", якія імкнуцца штосьці і касьці "ачарніць".

Навуковая спрэчка не атрымалася. У "Народную газету" актывісты клуба прыслалі не вынікі сваіх даследаванняў, а разграфлёную па пунктах выпіску з пратакола свайго чарговага пасяджэння, скапіраваную па матрыцах ідэалагічных установак былых парткамаў, райкамаў і тых, хто быў над імі. Але гэты пратакол побач з актывістамі палітызаванага клуба падпісалі мае калегі па Акадэміі навук лінгвіст А.Жураўскі, гісторык В.Палуян, археолаг Л.Побаль. Паважаючы гэтых вучоных і чытачоў газеты, я ўсё ж пагадзіўся даць нейкі каментарый да гэтай заявы.

Пачну з гістарычных слоў-назваў, з іх рэальнай семантыкі.

Сёння, на жаль, не толькі дылетанты, але і асобныя гісторыкі польскай і савецка-расійскай арыентацыі называюць гістарычную Рэч Паспалітую, утвораную Люблінскай уніяй 1569 года, "польскай дзяржавай", забываючы (тэндэнцыйна ці па гістарычнай наіўнасці), што яна складалася з Вялікага княства Літоўскага, ядром якога, паводле слоў Ф.Багушэвіча, была Беларусь, і Каралеўства Польскага. Пры гэтым Літва-Беларусь захавала за сабою палітычную, адміністрацыйную, ваенную і фінансава-эканамічную аўтаномію. Іншая справа, што ў канцы XVII—XVIII ст. "польскі бок" імкнуўся ажыццявіць ціхі "аншлюс" Беларусі і Літвы, пашырыў там сваю моўна-культурную экспансію.

Але гэтыя імперскія амбіцыі Польшчы зусім не адмяняюць гісторыка-прававога факта — наяўнасці аўтаномнага Вялікага княства Літоўскага — беларуска-літоўскай дзяржавы.

Давайце ўспомнім, што і Савецкі Саюз у Заходняй Еўропе, і ЗША наіўныя людзі называлі нейкай міфічнай Расіяй. А між іншым у гэтай "Расіі" была куды больш багатая нацыянальная, гістарычная і культурная разнастайнасць, чым у Заходняй Еўропе і ЗША, разам узятых. Не блытайце, паважаныя калегі, тэрміны! Тым больш што ў вашым клубе ёсць дыпламаваныя лінгвісты і нават члены-карэспандэнты Акадэміі навук.

Усё іншае ў заяве вынікае з гэтай тэрміналагічнай блытаніны. Не Каралеўства Польскае заваявала Беларусь і Літву, а Расійская імперыя, якая пачала сваю экспансію на Беларусь не ў канцы XVIII ст., а за 250 гадоў да падзелу федэратыўнай Рэчы Паспалітай (а не Польшчы, як думаюць некаторыя еўрапейцы і былыя "савецкія людзі"). Незалежна ад спрэчак наконт таго, хто быў Т.Касцюшка, паляк ці беларус (паводле той жа "савецкай гістарычнай навукі", зафіксаванай у "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі", ён усё ж належаў да старадаўняга беларускага шляхецкага роду), паўстанне пад яго кіраўніцтвам аб'ектыўна было накіравана на дзяржаўнае адраджэнне не толькі Польшчы, але таксама Беларусі і Літвы. Таму ініцыятарамі святкавання 200-годдзя вызваленчага паўстання 1794 года выступілі не "фальсіфікатары", як "изящно" паўтараюць аўтары заявы, узнаўляючы палітычныя выпады бальшавіцкіх ідэолагаў, а вядомыя гісторыкі, іншыя вучоныя Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы, якія сабраліся 28 чэрвеня — 2 ліпеня гэтага года на сваю прадстаўнічую навуковую канферэнцыю пад назвай "Рым-4".

Што датычыць інвектывы сяброў клуба, быццам бы "фальсіфікатары" імкнуцца паказаць Рэч Паспалітую як "бяскрыўдную федэрацыю", у якой беларусам забяспечвалася "шчаслівае жыццё", а нашае княства заставалася юрыдычна незалежнай "дзяржавай", то на гэта ёсць просты адказ, зафіксаваны ў наіўным афарызме: "Няма ў жыцці шчасця!" Ва ўсялякім выпадку, поўнага і гарманічнага. А тым больш для ўсіх. Бо дзяржавы, якія складаюць федэрацыю, становяцца ўзаемна залежнымі. Гэта паказаў вопыт савецкай федэрацыі — СССР.

Усё іншае ў заяве — суцэльная апалагетыка Расійскай імперыі, якая быццам ашчаслівіла беларусаў, "пераробляючы" іх на расійскі капыл і выхоўваючы "адукаваных" беларусаў, якія ў сваёй большасці выракаліся матчынай мовы і свайго беларускага першародства. Заадно выракаліся сваіх "простых" сялянскіх бацькоў. Настальгія па Расійскай імперыі, якую аднавілі бальшавікі ў нашым стагоддзі, — безнадзейная і марная справа. Рана ці позна ўсе імперыі распадаюцца. Расійская імперыя была апошняй. Гэта прадбачыў расійскі вучоны і апалагет вялікарасійскай імперскай дзяржаўнасці Канстанцін Лявонцьеў. І перажыў гэтае сваё прароцтва як асабістую трагедыю. Падзенне вялікіх імперый — сапраўды трагедыя. Але ж нідзе не дзенешся, бо нельга ісці супраць "ражна гісторыі".

Яшчэ большай трагедыяй (не толькі для палякаў, беларусаў і літоўцаў, але і для ўсёй Еўропы) былі тры падзелы Польска-беларуска-літоўскай дзяржавы ў канцы XVIII ст. паміж Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй. Бо якраз ужо тады завязаліся ў Еўропе вузлы нацыянальных супярэчнасцей, якія прывялі ў XX ст. да дзвюх сусветных войнаў. Але гэта — асобная геапалітычная і гістарычная праблема, якую немагчыма раскрыць у кароткім адказе на заяву, накіраваную супраць адраджэння праўдзівай беларускай гісторыі.

Тадэвуш Касцюшка — гістарычная асоба не толькі славянскага, але і сусветнага значэння. Змагар супраць усіх формаў каланіялізму. Герой вызваленчай вайны Злучаных Штатаў Амерыкі ў 1776—1783 гг. Пра яго ўзнёсла напісалі расійскія гісторыкі, і гэта зафіксавана ў расійскіх савецкіх энцыклапедыях. Для шматпакутнай Беларусі паўстанне пад яго кіраўніцтвам было рэальным шанцам пачаць адраджэнне сваёй дзяржаўнасці і культуры яшчэ ў канцы XVIII — пачатку XIX ст. Яго паражэнне прычынілася да таго, што даводзіцца пачынаць будаваць беларускую дзяржаву сёння, праз 200 гадоў, калі бальшавіцкая дэспатыя паставіла наш народ ля бездані гістарычнага нябыту.

Помнікі Т.Касцюшку ёсць не толькі ў Польшчы і ЗША. У Аўстраліі яго імем названа самая высокая гара. Няхай жа і наш, беларускі юбілей паўстання 1794 года стане этапам нашага дзяржаўнага адраджэння. Няхай Расія славіць сваіх герояў, а Беларусь — сваіх.

*Што ва ўрадзе?*

# Нафтавая рака ў рынaчным рэчышчы

**Пад старшынствам Вячаслава Кебіча ў Доме ўрада адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Савета Міністраў.**

У мэтах паспяховага вырашэння энергетычнай праблемы і далейшага развіцця рынaчных адносін прынята пастанова "Аб удасканаленні парадку ўвозу і перапрацоўкі нафты, рэалізацыі нафтапрадуктаў у Рэспубліцы Беларусь". У адпаведнасці з гэтым дакументам, які прэм'ер-міністр назваў "сапраўды рынaчным", усе суб'екты гаспадарання незалежна ад форм уласнасці з 1 кастрычніка г.г. надзяляюцца правам ажыццяўляць аптовы і рознічны гандаль нафтай і нафтапрадуктамі без атрымання ліцэнзій і без перарэгістрацыі сваіх устаноўчых дакументаў. Рэалізацыя нафты і нафтапрадуктаў у рэспубліцы пачынаючы з кастрычніка будзе ажыццяўляцца ўсім спажыўцам па свабодных (дагаворных) цэнах, але не вышэйшых за сусветныя. Увоз і вываз нафты і нафтапрадуктаў у Беларусі не абмяжоўваюцца, калі гэта не супярэчыць міжнародным і міжурадавым пагадненням. Органам дзяржаўнага кіравання забаронена ўмешвацца ў дагаворныя адносіны пастаўшчыкоў нафты з нафтаперапрацоўчымі прадпрыемствамі.

На пасяджэнні разгледжан таксама шэраг іншых пытанняў.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.**

# Ад Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі

Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі нагадвае, што прыём работ на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1994 года праводзіцца да 1 лютага 1994 г.

Работы прадстаўляюцца ў камітэт у адпаведнасці з Палажэннем аб прэміях, зацверджаным пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 чэрвеня 1992 года нумар 1723-XII.

Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем работ і афармленнем прадстаўлення, звяртацца ў камітэт, які знаходзіцца па адрасу: 220072, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 66, пакой 317 (III паверх), тэлефоны: 39-54-56, 39-31-11.

*На злобу дня*

# С открытым забралом

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

Такая точка зрения совпадает с позицией Контрольной палаты. Однако, будучи соратниками в теории, эти два органа на практике пока еще не вполне притерлись друг к другу. Случается, чиновники Госимущества вольно или невольно содействуют нарушениям порядка смены форм собственности, слабо контролируют самодеятельность местных органов власти. В том же Витебске горисполком, не получив разрешения Совета народных депутатов, отдал в пользование негосударственным структурам здания, являющиеся историко-архитектурным наследием. Необоснованность этих сделок подтвердил Хозяйственный суд области, но руководство Облгосимущества грудью встало на защиту... ответчиков по делу. Прискорбно, что Контрольной палате в таких случаях приходится доказывать свою правоту тем, кто по службе обязан соблюдать законные нормы регулирования отношений собственности.

Порой создается впечатление, что одни лишь контролеры болеют за госбюджет и прочие национальные фонды. Начальник инспекции по Гродненской области Виктор Кудрявец рассказал о том, как вопреки закону, запрещающему приватизацию спиртзаводов, волковысские власти продали именно такое предприятие обществу с ограниченной ответственностью, где устроен сын председателя райисполкома "со товарищи". Уставной документ был фальсифицирован, регистрацию "сыновней фирмы" оформили задним числом. Облуправление Госимущества на сигнал КП не отреагировало, не говоря уже о районных блюстителях закона. Что районные, если республиканская Прокуратура четвертый месяц молчит по этому поводу? А прибыль от спирта течет в карманы узкого круга лиц. Может, не такого уж и узкого?..

Вопросы с криминальным подтекстом возникали на семинаре не раз. Ребром их ставили работники отдела по борьбе с экономической преступностью Витебского УВД. Они сетовали, что не находят в актах Контрольной палаты прямого указания, на кого можно заводить уголовное дело. Приходится поэтому повторять путь контролеров, ориентируясь на судебную перспективу.

Об усилении ответственности должностных лиц, допускающих "утечку" госимущества, говорил и заместитель директора Департамента экономического контроля Республики Беларусь Борис Савченко. По его мнению, "Методикой", разработанной в Контрольной палате, следует побыстрее вооружить его коллег, правоохранительные органы, ведомственных ревизоров. Будет легче работать. В то же время участники семинара говорили об отсутствии четкого механизма взыскания ущерба от так называемой упущенной выгоды. Само это понятие расплывчато, а мера ответственности за него не определена в законе.

И ведь правда. То, что немыслимо для владельца частного предприятия, — норма поведения для нашего, государственного "хозяина". Один из высокопоставленных чиновников Госкомпрома самолично направил часть бюджетных средств, выделенных на развитие науки, на финансирование разработок по внутренним проблемам одного из предприятий. А руководитель объединения "Горизонт", получив кредит из Германии на техническое перевооружение, пустил валюту на закупку импортных кинескопов во имя сиюминутной выгоды. Разве поступил бы так настоящий собственник?

Приводились и такие факты. В Шумилинском районе при нехватке зерноуборочных комбайнов эти машины продали по 2 миллиона рублей. А за новые надо платить по 40 миллионов! Из Витебской области идет за рубеж лес по демпинговым ценам в 22 доллара за кубометр вместо 50. Сбывая кругляк взамен пиленой древесины, здесь упустили уже 5 миллиардов рублей, и никто пока за это не ответил...

За один год работы Контрольная палата вернула государству 80% выявленного контролерами ущерба. Но кому персонально дали по шапке?

Являясь высшим в республике органом экономического надзора, КП не располагает даже теми карательными возможностями, которыми обладал Комитет народного контроля. Тот мог "устроить" исключение из партии, а значит — потерю начальственного кресла. А чем может напугать Контрольная палата? Штрафом в три оклада? Хозяйственным судом, который личному кошельку — как слону дробина? Ну, наконец, обращением в прокуратуру, чего пока ни разу не случалось. Правда, терпение контролеров, кажется, уже подходит к пределу...

КП — не особое совещание сталинской эпохи, не следственная комиссия. Задача палаты — добиваться выполнения законов, берегущих государственное достояние. Впрочем, почему добиваться, а не требовать? А для этого более тесное, исключающее дубляж сотрудничество с ближайшими "союзниками" — милицией, КГБ, Департаментом экономического контроля, налоговыми службами — просто необходимо. Не случайно ведь представители этих ведомств были приглашены на семинар и договорились укрепить взаимосвязь. Это наверняка поможет Контрольной палате занять свое место в системе регулирования отношений собственности.

Пока же очертания этого места несколько зыбки. И делает их такими прежде всего несовершенное законодательство. Ушатом холодной воды явилось для контролеров решение, принятое последней сессией Верховного Совета, которым внесена поправка в Закон о местном хозяйствовании и местном самоуправлении. Отменен пункт об исключительной компетенции сессии местных Советов по определению и изменению правового режима собственности. Эта "привилегия" передоверена исполкомам. Следовательно — отдельным чиновникам. Теперь они уполномочены, не советуясь с депутатами, решать вопросы продажи казенной собственности, будь то пивной ларек или ресторан, мастерская или завод. Сессия, представляющая интересы тысяч избирателей, может даже не узнать, что, где, когда, кому и за сколько уступили?

Одним махом, по существу, легализованы все сомнительные акты приватизации, совершенные с благословения исполкомов еще до поправки в законе, включен зеленый свет для повторения подобных скоропалительных сделок. И, безусловно, — созданы серьезные препятствия для работы КП и других органов, призванных защищать государственную собственность от дешевой распродажи далеко не в лучшие руки.

— Неверный шаг с точки зрения экономики, хозяйственной практики и политики, — утверждает по этому поводу Вячеслав Радомский. — Необходимо вернуть местным Советам отобранную у них прерогативу в распоряжении своей собственностью. Понятно, что мы обязаны соблюдать любой закон, пусть и неуклюжий, и даже ошибочный, но полномочия Контрольной палаты предполагают ее участие в формировании такого законодательства, которое обеспечит нормальное функционирование экономики в безупречном правовом режиме. Будем добиваться отмены этой каверзной поправки.

По словам Радомского, Контрольная палата должна иметь право давать указания Департаменту экономического контроля, КРУ, налоговым инспекциям, чтобы они, пользуясь своими полномочиями, принимали меры к реализации предписаний КП. Плохо то, что в Беларуси нет закона о системе государственного контроля, ее структуре, включающей Контрольную палату как парламентский, наиболее независимый надзорный орган, Департамент экономического контроля как орган правительственный, ведомственные службы и т.д. Права, обязанности и характер взаимодействия всех уровней контроля должны быть оговорены в специальном законе и в особой главе Конституции. Если этого не сделать, все существующие нормативные акты, относящиеся к госконтролю, останутся несостыкованными, противоречивыми и во многом бесполезными.

Проблем, возникающих в ходе оценки и отчуждения государственной собственности, множество. Решать их нужно незамедлительно. Контрольная палата накопила пакет предложений и в порядке законодательной инициативы передала их в Верховный Совет. Там эти документы и затерялись...

Отношения собственности — фундамент всякой нормальной экономики. В СССР этих отношений не было вообще, и сейчас мы только начинаем их формировать. При этом видим, как люди, по долгу совести и службы обязанные сохранять и приумножать общенациональное добро, расшвыривают его как попало и кому попало под предлогом приватизации. И если сегодня не остановить этот процесс, завтра нечего будет приватизировать даже в полном соответствии с законом. Хотя к тому времени закон, возможно, станет идеальным...

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

